ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ**
**КОЗЫРАЎ**

**4**



























НЕ, НЕ, НЕ! ЗАРУБІ САБЕ **НА НОСЕ**, ПРЫЯЦЕЛЬ.

БЫЛО **ПЯЦЬ** ЧАРОЎНЫХ БАБОЎ, ЯКІЯ МАЯ МАЦІ (АТРЫМАЕ ПАЧЫН ЯЕ ДУША) ВЫКІНУЛА З АКНА.

ПАЗНЕЙ, ПЕРАНАКАЎШЫСЯ, ШТО ЯНА ЗАСНУЛА... КАБ ПАЗБЕГНУЦЬ ЯШЧЭ АДНОЙ ЛУПЦОЎКІ... Я ВЫШМЫГНУЎ НА ВУЛІЦУ, ПАШУКАЎ У ЦЕМРЫ І ЎЗЯЎ ІХ **НАЗАД**.

THE GLASS SLIPPER SHOES

TAVERN

Я ЗМОГ ЗНАЙСЦІ НАВОБМАЦАК ЧАТЫРЫ З ІХ, ПЕРШ ЧЫМ СКОНЧЫЎ СПРАВУ.

НА НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ Я ВЫЯВІЎ, ШТО З БОБА, ЯКІ Я **НЯ ЗМОГ** ЗНАЙСЦІ, ЗА НОЧ ВЫРАСЛА ЧАРОЎНАЕ БАБОВАЕ СЦЯБЛО.

ГЭТА СЦЯБЛО ТОЛЬКІ З АДНАГО БОБА?

ТАК, ДРОЗДАБАРОД, У ЯБЛЫЧАК. ГЭТА Я І СПРАБУЮ ЎБІЦЬ У ТВАЮ ТОЎСТУЮ ЧАРАПУШКУ ЦЭЛУЮ НОЧ.

# Скажы, калі чуў такі, як чалавек уваходзіць у бар...

## Глава трэцяя. Марш драўляных салдатаў

BILL WILLINGHAM writer/creator
MARK BUCKINGHAM penciller
STEVE LEIALOHA inker
DANIEL VOZZO color/seps
TODD KLEIN lettering
JAMES JEAN cover art
MARIAH HUEHNER assistant editor
SHELLY BOND editor

У МЯНЕ ЗАСТАЛІСЯ ЧАТЫРЫ БАБЫ, І ЎСЁ, ШТО НАМ ТРЭБА ЗРАБІЦЬ, ГЭТА ПАСАДЗІЦЬ **АДЗІН** ДЗЕ-НЕБУДЗЬ ПАДАЛЕЙ І ДАЧАКАЦЦА, ПАКУЛЬ ЁН ВЫРАСЦЕ Ў ГІГАНЦКАЕ **БАБОВАЕ СЦЯБЛО**... ПРАМА ДА ХМАРНЫХ КАРАЛЕЎСТВАЎ.

І НАВОШТА НАМ **ГЭТА** РАБІЦЬ?

ТАМУ ШТО ХМАРНЫЯ КАРАЛЕЎСТВЫ – ГЭТА АДЗІНАЕ МЕСЦА, ЯКОЕ ВОРАГ ЯШЧЭ **НЕ ЗАХАПІЎ**, У РЭШЦЕ РЭШТ У ЯГО НЯМА БАБОЎ, КАБ **ДАБРАЦЦА** ТУДЫ.

АДКУЛЬ **ТЫ** ВЕДАЕШ?

МАБЫЦЬ ЁН ЗНАЙШОЎ ДЗЕ-НЕБУДЗЬ ВЕЛІЗАРНЫЯ **СХОВІШЧА** ЧАРОЎНЫХ БАБОЎ, І ЦЯПЕР ПА ЎСЁЙ ІМПЕРЫІ РАСТУЦЬ СЦЯБЛЫ З ЛІФТАМІ І ІНШАЙ ДРЭННЮ, ЯКІЯ ШТОДЗЕНЬ ГАНЯЮЦЬ УВЕРХ І ЎНІЗ ДА ХМАРНЫХ КАРАЛЕВСТВАЎ. КОЖНЫ ДЗЁЎБАНЫ **ДЗЕНЬ**.

ГЭТА ЛУХТА.

ЧАМУ? У ЯГО БЫЛО **ДАСТАТКОВА** ЧАСУ, КАБ УСТАЛЯВАЦЬ ЛІФТЫ Ў ГЭТЫЯ ШТУКІ... ПРАЦУЮЧЫЯ НА ГІГАНТАХ ЦІ ТРОЛЯХ, ЦІ ЦМОКАХ, ЦІ ХТО ЯГО **ВЕДАЕ**, НА ЧЫМ ЯШЧЭ?

Я НЕ ПРА **ЛІФТЫ**. БЯЗГЛУЗДА ЛІЧЫЦЬ, ШТО Ў ЯГО ЁСЦЬ УЛАСНЫЯ ЧАРОЎНЫЯ **БАБЫ**.

ЯНЫ ВЕЛЬМІ РЭДКІЯ, І Я НАБЫЎ АПОШНІЯ ПЯЦЬ.

І НАКОЛЬКІ Ж **РЭДКІМІ** ЯНЫ МОГУЦЬ **БЫЦЬ**, КАЛІ ІХ ПРАДАВАЛІ ПА ЦАНЕ ПЯЦЬ БАБОЎ ЗА КАРОВУ?


ТЫ ШТОСЬЦІ ЗАБЫВАЕШ. КОЖНЫ З ХМАРНЫХ КАРАЛЁЎ БЫЎ БАГАЦЕЙ ЗА САМЫ ЦУДОЎНЫ СОН МІДАСА.
КАЛІ Б МЫ ЗМАГЛІ ПАСАДЗІЦЬ ІНШАЕ БАБОВАЕ СЦЯБЛО І ЗАБРАЦЦА ТУДЫ, МЫ Б ЗАБРАЛІ ЎСЮ ЗДАБЫЧУ.


І ЧАМУ Ж ТЫ ТАК ШЧОДРА ЖАДАЕШ УКЛЮЧЫЦЬ МЯНЕ Ў ГЭТУ ВЯЛІКУЮ АВАНТУРУ?
ТАМУ ШТО Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ ГРОШЫ. А Ў МЯНЕ НЯМА. ПАДРЫХТОЎКА ТАКОЙ ЭКСПЕДЫЦЫІ – КАБ У ГЭТЫ РАЗ УСЁ БЫЛО ДОБРА – НУ, ГЭТА НЯТАННА.


ВОСЬ УМОВЫ: БУДЗЕМ РОЎНЫМІ ПАРТНЁРАМІ. Я АДДАЮ АДЗІН З ЧАРОЎНЫХ БАБОЎ...
...А ТЫ ЎКЛАДЗЕШСЯ Ў МІНІМАЛЬНЫЯ ГРАШОВЫЯ РАСТРАТЫ... СКАЖАМ, ПАЧНЕМ З 13 ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ.
ЯКІЯ Я НІКОЛІ НЕ ЎБАЧУ, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК АДДАМ ТАБЕ.


ЗАБУДЗЬ, ДЖЭК. Я ЗНАЁМЫ З ТВАІМІ СПРАВАМІ І НЕ ВЫДАТКУЮ НІ ЦЭНТА НА ЎСЯЛІКІ ПЛАН З УДЗЕЛАМ ЦЯБЕ І ТВАІХ ВЫДУМАНЫХ СТРУКОЎ.
ТЫ ШТО, ХІЛІШ НА ТОЕ, ШТО НА САМОЙ СПРАВЕ Ў МЯНЕ БОЛЬШ НЯМА БАБОЎ?


ДАБРАНАЧ, ДЖЭК.
А ТЫ МНЕ НІКОЛІ І НЕ ПАДАБАЎСЯ, ДРОЗДАБАРОД!

У іншым месцы горада – удалечыне ад Фэйблтаўна.
CAFE
PHAT MIKES BAR
ПРЫЕХАЛІ.
24 HOUR TAXI
РЭШТА ТВАЯ.
ДЗЯКУЙ, ПРЫЯЦЕЛЬ.
ЧЫСТЫ ВІСКІ, КАЛІ ЛАСКА.
ВЯЛІКУЮ ШКЛЯНКУ.
А ГЭТА МЕНАВІТА **САМ** БОЗЛІ. ЯК ТЫ ЗНАЙШОЎ МЯНЕ, ШЭРЫФ?
Я САЧУ ЗА КАЗАЧНЫМІ, ЯКІЯ ВЫРАШАЮЦЬ ЖЫЦЬ СЯРОД ЗВЫЧАЙНЫХ.


СЯДАЙ.
ЯК ЖЫЛОСЯ, КАЙ?
БЫВАЛА ЛЕПЕЙ І БЫВАЛА ГОРАЙ.


ЯКОГА ЛЯСУНА? ТЫ ЗНОЎ ВЫКАЛАЎ САБЕ ВОЧЫ?
ЧАМУ ТЫ ГЭТА РОБІШ?


ТЫ ВЕДАЕШ ЧАМУ.
КАЛІ Я МАГУ БАЧЫЦЬ, Я НЕ МАГУ НЯ БАЧЫЦЬ КОЖНЫ ЗЛЫ ЎЧЫНАК, ЯКІ КОЖНЫ ЧАЛАВЕК ЗРАБІЎ У СВАІМ ЖЫЦЦІ.
НІЯКІХ УЯЎЛЕННЯЎ ПРА ДОБРАЕ... ТОЛЬКІ ЗЛО... У ПАДРАБЯЗНАСЦЯХ. МОЖАШ САБЕ ЎЯВІЦЬ, ЯК ГЭТА – ВЕДАЦЬ ТАКІЯ РЭЧЫ?


ЛЕПЕЙ НЯ БАЧЫЦЬ УВОГУЛЕ.
І КОЛЬКІ ПРАЙШЛО?
З ТАГО ЧАСУ, ЯК Я ВЫКАЛАЎ ІХ У ГЭТЫ РАЗ? ПАРА ГАДОЎ.


ПРОЙДЗЕ ЯШЧЭ, ПРЫНАМСІ, ТРЫ ЦІ ЧАТЫРЫ ГАДЫ, ПЕРШ ЧЫМ ЯНЫ АДНАВЯЦЦА.
ЛАЙНО. ЁСЦЬ КАЗАЧНАЯ, І Я Б ЖАДАЎ, КАБ ТЫ НА ЯЕ ПАГЛЯДЗЕЎ.

ХІБА Я ЎЖО НЕ ПРАВЕРЫЎ УСІХ?

ГЭТА З'ЯВІЛАСЯ ТОЛЬКІ ШТО... ДЗЯЎЧЫНКА, І Я ПАДАЗРАЮ, ШТО ЯНА ШПІЁНКА ВОРАГА.

ТЫ Б МОГ ЗІРНУЦЬ НА ЯЕ І ДАВЕДАЦЦА, ПРАЎДА ГЭТА ЦІ НЕ?

ДРЭННА ДЛЯ НАС, ТАК?

АЛЕ ВЕДАЕШ, ЯК ПІСАЛАСЯ Ў АДНОЙ ДОБРАЙ КНІЗЕ: «КАЛІ ВОКА ТВАЁ СПАКУШАЕ ЦЯБЕ, ВЫРВІ ЯГО І КІНЬ АД СЯБЕ».

НЯВАЖНА, ЯК ЧАСТА Я ІХ ВЫКОЛВАЮ... ЦІ ЯК ГЛЫБОКА Я РЭЖУ... Я НІКОЛІ НЕ МАГУ ВЫЦЯГНУЦЬ ГЭТЫ МАЛЕНЬКІ АСКОЛАК РАЗБІТАЙ ЛЮСТЭРКІ.

ЧАМУ **ПРАКЛЯТЫЯ** РЭЧЫ ЗАЎСЁДЫ ЗРОБЛЕНЫ ЛЕПЕЙ, ЧЫМ ДОБРАЯ МАГІЯ?

НЯ ВЕДАЮ. СПЫТАЙ СНЕЖНУЮ КАРАЛЕВУ.


КАЙ, ПАС-ЛУХАЙ...
ВЕДАЮ, ТЫ НЯ МОЖАШ ЗАСТАЦЦА.
ЗАСТАЎСЯ Б, АЛЕ ГЭТА РАССЛЕДАВАННЕ ПАТРАБУЕ МАЁЙ УВАГІ.
МНЕ ТРЭБА ПАСПЕЦЬ НА РАНІШНІ РЭЙС.

ПОСПЕХАЎ, КАЙ.
ГЭЙ, БОЗЛІ?
ТАК?

Я Ж ДОБРА РАЗГЛЯДЗЕЎ ЦЯБЕ Ў ТЫЯ ДАЎНІЯ ДНІ, ТАК ЖА?
ДУМАЮ ТАК.

ТЫ НІКОЛІ НЕ СЛУЖЫЎ ВОРАГУ, ПРАЎДА. АЛЕ КАЛІ Б ТВАЕ ЗНАЁМЫЯ КАЗАЧНЫЯ ВЕДАЛІ ЎСЮ ПРАЎДУ... УСЮ ЖУДАСНАСЦЬ ТАГО, ШТО ТЫ ЗРАБІЎ НА САМОЙ СПРАВЕ... ЯНЫ Б УСЁ ЯШЧЭ ДРЫЖАЛІ Ў СВАІХ ЛОЖКАХ КОЖНУЮ НОЧ.
ТЫЯ ДНІ **ДАЎНО** ПРАЙШЛІ, КАЙ.

БУДЗЕМ СПАДЗЯВАЦЦА.







А?

ВОХ ВЫ Ж ПАГЛЯДЗІЦЕ, ЛЮДЗІ Ў ЧОР-НЫМ, ГЭТА **ТАК** МІЛА.

ВАС **МАТУЛЬКА** АПРАНАЛА ДЛЯ **КІНО**?

МЫ Б ЖАДАЛІ ПРЫНЯЦЬ ВАШУ **ПРАПАНОВУ**

ТУЮ, ЯКУЮ ВЫ АБМЯРКОЎВАЛІ З **ІНШЫМ** ДЖЭНТЛЬМЭНАМ

РАНЕЙ, ГЭТЫМ ВЕЧАРАМ.


ВЫ ЎВОГУЛЕ ПРА ШТО, МУЖЫКІ?
ВЯРТАЙЦЕСЯ ДА **ЗВЫЧАЙНЫХ**, ХЛОПЦЫ.


МЫ АБМЯРКОЎВАЕМ **БАБЫ**.
ЧАТЫРЫ ЧАРОЎНЫХ БАБЫ, ЯКІЯ ЗАСТАЛІСЯ Ў ВАС.
МЫ Б ЖАДАЛІ ІХ КУПІЦЬ У ВАС.


ТРЫНАЦЦАЦЬ ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ – ГЭТА ЦАНА, ПРА ЯКУЮ ВЫ КАЗАЛІ, ТАК?
МЫ МОЖАМ ДАЗВОЛІЦЬ САБЕ ГЭТА.


ГЭТА ЗА АДЗІН БОБ, ЦІ ЗА ЎСЕ ЧАТЫРЫ?


ТУПЫЯ **ЗВЫЧАЙНЫЯ**! НЯМА **НІЯКІХ** ЧАРОЎНЫХ БАБОЎ.
ТЭРМІНОВА Ў НУМАР, ХЛОПЦЫ: САНТА І ВЕЛІКОДНЫ ЗАЯЦ **ТАКСАМА** НЕ САПРАЎДНЫЯ.


ВАМ ТРЭБА ПЕРАВЕСЦІ СВАЕ **БАДЗЯЖНЫЯ** ДЭТЭКТАРЫ З РЭЖЫМУ «ВЕЛЬМІ ДАВЕРЛІВЫЯ».


ПРАБАЧЦЕ, СПАДАР ХОРНЭР.
СПАДАР ДЖЭК ХОРНЭР.
ВАМ ТРЭБА МЕЦЬ БОЛЕЙ ПАВАГІ.
ГЭЙ! ПРЭЧ АД МЯНЕ!

МЫ МАЕМ НАМЕР АТРЫМАЦЬ ЧАРОЎНЫЯ БАБЫ.
ТАК ЦІ ІНАКШ.
І КОЖНУЮ ІНШУЮ РЭЧ У ФЭЙБЛТАЎНЕ, ЯКАЯ МАЕ СТРАТЭГІЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ.
УУУУГХ! СПЫНІЦЕСЯ!

А Ў ПРАЦЭСЕ МЫ ПРАВУЧЫМ ВАС, МЯСАГАЛОВЫХ.
НАВАТ КАЗАЧНЫМ МЯСАГАЛОВЫМ ТРЭБА ПАВУЧЫЦЦА ШАНАВАЦЬ.
У АСАБЛІВАСЦІ КАЗАЧНЫМ МЯСАГАЛОВЫМ.
АААГХ!
...ДАПАМАЖЫЦЕ!...

Я НЯ ВЕДАЮ, ДЗЕ КАПЯЛЮШЫК БЫЛА МІНУЛАЙ НОЧЧУ. АЛЕ ЯНА БЫЛА ВЕЛЬМІ РАЗЛАДЖАНАЯ ТЫМ, ШТО ТЫ БУДЗЕШ ДАПЫТВАЦЬ ЯЕ.
THE GLASS SLIPPER SHOES
BRANSTOCK TAVERN
Д-ДАПАМАЖЫЦЕ!


ДЫК ГЭТА НЕ ЗДЗІЎЛЯЕ МЯНЕ, СПАДАР КОЛЬ.

УЛІЧВАЮЧЫ ЖУДАСНУЮ **ГІСТОРЫЮ**, ЯКАЯ ВАС ЗЛУЧАЕ.

НЯ ГЭТА... ЦІ НЯ **ТОЛЬКІ** ГЭТА, АЛЕ ТАМУ ШТО Ў ЯЕ ЁСЦЬ ЛЕГЕНДА, ЯКОЙ ЁЙ ТРЭБА ПРЫТРЫМЛІВАЦЦА, І ЯНА АСЦЯРОЖНА НАКОНТ ТАГО, ЯК ДОЎГА ЯНА ПРАТРЫМАЕЦЦА ПРЫ СУР'ЁЗНЫМ І СКЕПТЫЧНЫМ РАЗБОРЫ.

І ГЭТА **ЗРУЧНА**, ШТО Ў ЯЕ ЁСЦЬ ДОБРАЯ ПРЫЧЫНА, КАБ ПАЗБЕГНУЦЬ КАНТАКТУ СА МНОЙ.

«ЛЕГЕНДА»? ШТО ЗА **ЛУХТУ** ТЫ МЕЛЕШ?

**ПРАЎДУ КАЖУЧЫ**, СПАДАР ВОЎК, ЧАСАМ ЗДАЕЦЦА, ШТО ТЫ РАЗМАЎЛЯЕШ НА НЕЙКАЙ СВАЁЙ МОВЕ.

У МЯНЕ НЯМА ЧАСУ ЎСЁ ТЛУМАЧЫЦЬ, СПАДАР МЭР.

У МЯНЕ РЭЙС У СЕМ, А МНЕ ЯШЧЭ ТРЭБА ВЫЖАЦЬ З БЕЛЫ ГРОШЫ ЗА БІЛЕТ І КАМАНДЗІРОВАЧНЫЯ.

КУДЫ ТЫ НАКІРОЎВАЕШСЯ? ТЫ ПАТРЭБНЫ **ТУТ**.

ТАБЕ ТРЭБА СПЯШАЦЦА І АБВЯСЦІЦЬ ПРА ЗАВЯРШЭННЕ РАССЛЕДАВАННЯ АСОБЫ КАПЯЛЮШЫКА, КАБ МЫ МАГЛІ АФІЦЫЙНА ПРЫНЯЦЬ ЯЕ Ў НАШУ СУПОЛКУ.

ГЭТАГА **НЯ** БУДЗЕ. ЯНА ПА ВУШЫ Ў БРУДЗЕ. ЯНА ШПІЁНКА ВОРАГА, І Я ЗБІРАЮСЯ ГЭТА **ДАКАЗАЦЬ**.

НЕМАГЧЫМА. ЯНА **НЯ МОЖА** ЁЙ БЫЦЬ!

УВЕСЬ ФЭЙБЛТАЎН **СВЯТКУЕ** ЯЕ ПРЫБЫЦЦЁ.

ЛЮДЗІ ШЧАСЛІВЫЯ, А ШЧАСЛІВЫЯ ЖЫХАРЫ НЕ ГАЛАСУЮЦЬ ЗА ЗАМЕНУ МЭРА НА ВЫБАРАХ, ЯКІЯ ЎВОГУЛЕ НЕЛЬГА БЫЛО **НІКОЛІ** ДАПУСКАЦЬ.

ТАБЕ ТРЭБА ЗАСТАЦЦА ТУТ І ЗНАЙСЦІ СПОСАБ **ПЕРАМАГЧЫ** ВЫДАТНАГА ПРЫНЦА.

НАВАТ ЛЕПЕЙ, МЫ МОЖАМ НАРЫЦЬ НА ЯГО НЕЙКІ **СКАНДАЛЬЧЫК**, КАБ ЁН ЗНЯЎ СВАЮ КАНДЫДАТУРУ.

ТАК... НАЙМЕНШ РЫЗЫКОЎНА – ГЭТА ПАЗБЕГНУЦЬ ВЫБАРАЎ **УВОГУЛЕ**.

ПРАБАЧ, ШТО РАЗБУДЗІЎ ЦЯБЕ, БЕЛА, АЛЕ ТЫ ПАТРЭБНА МНЕ Ў КІРАЎНІЦТВЕ СПРАВАМІ, ЗАРАЗ ЖА.

ПАКАПАЙСЯ Ў СВАІХ СПРАВАХ І ЗНАЙДЗІ НЕЙКІ САПРАЎДЫ АГІДНЫ БРУД. ПАСКУДНЫЯ, ЗЛОСНЫЯ РЭЧЫ, ЯКІЯ...

ГЭЙ, МЫ ЯШЧЭ НЯ **СКОНЧЫЛІ! КУДЫ** ТЫ..?

НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ ЗАЧЫНІЦЬ ДЗВЕРЫ, КАЛІ БУДЗЕЦЕ ПАКІДАЦЬ ПАКОЙ, СЭР.


PRINCE CHARMING for MAYOR
A MAN FOR ALL FABLES
vote


ЯК ВАМ, СЭР?


ВЫДАТНА.


ПАЧЫНАЙ РАЗВЕШВАЦЬ ІХ, ХОБС.
Я ЖАДАЮ, КАБ ДА КАНЦА ДНЯ ЯНЫ ВІСЕЛІ ПА ЎСЯМУ ФЭЙБЛТАЎНУ... **ПРЫНАМСІ**, ПА АДНАМУ Ў КОЖНАЙ КРАМЕ, РЭСТАРАНЕ І ЖЫЛОЙ ХАЦЕ.


ВЕЛЬМІ ДОБРА, СЭР.


CHATEAU D'IF FENCING ACADEMY
14
FOR
PRINCE CHARMI for MAYO

NOD'S BOOKS
VISIT OUR COMICS NOOK
NOO'S

A MAN FOR AL FABLES

LEWIS ANTIQUES
22

A MAN FOR ALL FABLES

AM THE GGMAN DINER
BULLFINCH
KIPLING

НЕ МАГЛІ Б ВЫ ПАВЕСІЦЬ ГЭТА, КАЛІ ЛАСКА, СКВАЙР ВУЛКО.
ХММ... ТАК, ЧАМУ Б І НЕ.


for MAYOR


for MAYOR


МЯСНЫ КАЗАЧНЫ НАС БАЧЫЎ, БРАТ ЛУ?
ЛІЧУ, ШТО НЕ, БРАТ ДРЮ.
ДОБРА, ТАДЫ МЫ МОЖАМ ПРАЦЯГНУЦЬ НАВУЧЭННЕ ГЭТАГА.


Я ТАК НЕ **ЛІЧУ**, ХЛОПЦЫ.


У ГЭТЫМ ЖЫЦЦІ Я ЎЖО АТРЫМАЎ УСЮ ПАТРЭБНУЮ АДУКАЦЫЮ.
ШТО ГЭТА?


ЁН **УЦЯКАЕ**, БРАТЫ.
МАЦНЕЙ, ЧЫМ МЫ ЛІЧЫЛІ.
**ХУТКА** ЗА ІМ, БРАТЫ.


Я АДРАЗУ ПАЙДУ...


...ЯК ТОЛЬКІ ПРЫВЯДУ САБЕ Ў ПАРАДАК.


ТЫ НЯ ЗМОЖАШ **УЦЯЧЫ** АД НАС, МЯСНЫ.
НАС НЕЛЬГА ПАКАЛЕЧЫЦЬ ЯК ЦЯБЕ, І МЫ НІКОЛІ НЕ СТАМЛЯЕМСЯ.




НУ ЖА!
НУ ЖА!
НУ ЖА!


СЫДЗЕ.


ХУТЧЭЙ, ХЛОПЦЫ! ПАКУЛЬ Я НЕ..!
ВОСЬ ТЫ ДЗЕ.
ВОХ ТЫ Ж.


WHACK!


СУМНЯВАЮСЯ, ШТО ГЭТА АБЯРНЕЦЦА **ДОБРА**, БРАТ.


SMACK!
BAM!


**ВОСЬ**, БРАТЫ, Я ЗНОЎ ВЫГЛЯДАЮ **ЗУСІМ** ЯК АДЗІН З МЯСАГАЛОВЫХ.
Я ЎЖО І...


...ДУ.




АКЕЙ, ХЛОПЦЫ, Я ЧАКАЮ.
НАСТУПНЫ?


НЕ ПАДНІМЕШСЯ СЮДЫ, ПРЫЯЦЕЛЬ?
НЕ, Я ДУМАЮ, МАЕ БРАТЫ І Я ВЫРАШЫЛІ ПАКУЛЬ АДЛАЖЫЦЬ НАШУ ГУТАРКУ.


ТАДЫ Я ДАЮ ТАБЕ ПЯЦЬ ХВІЛІН, КАБ СПУСЦІЦЦА І ПАЦЯГНУЦЬ СВАІХ БРАТОЎ У БАЛЬНІЦУ... І НЕ ВЯРТАЙЦЕСЯ.
ОЎ. МЫ ЗНОЎ СУСТРЭНЕМСЯ, ДЖЭК ХОРНЭР. Я МАГУ АБЯЦЦАЦЬ ГЭТА.


ТЫ ЦЭЛЫ, БРАТ?
ЗДАЕЦЦА, ТАК. АЛЕ Я ПАЛАМАЎ НАГУ ПРЫ ПАДЗЕННІ.
Я САПСАВАНЫ, АЛЕ НЕ ПАШКОДЖАНЫ.

НАМ ТРЭБА ХУТКА ПАКІНУЦЬ ГЭТА МЕСЦА, БРАТЫ.

САПРАЎДЫ, ПАКУЛЬ МНОСТВА МЯСНЫХ КАЗАЧНЫХ НЕ САБРАЛІСЯ НА ШУМ.

ДЗЕ ТВАЯ ЗЛАМАНАЯ НАГА, БРАТ ЛУ?

КІНЬ ЯЕ, БРАТ ХЬЮ, ЯЕ ЛЁГКА **ЗАМЯНІЦЬ**.

САПРАЎДЫ, АДЫХОДЗІМ У СХОВІШЧА, КАБ ПАЛАТАЦЬ ЦЯБЕ.

ЗАРАЗ ЖА.

ПЕРАД ВЯРТАННЕМ, ДАСТАНЕМ **ПУШКІ**.

ПАДТРЫМЛІВАЮ. У РЭТРАСПЕКТЫВЕ НАМ ТРЭБА БЫЛО ЗАНЯЦЦА ГЭТЫМ РАНЕЙ.

ПАДТРЫМЛІВАЮ. МЯСАГАЛОВЫЯ ГЭТЫХ ДЗІЎНЫХ ЗЕМЛЯЎ ПАВАЖАЮЦЬ ТОЛЬКІ ТЫХ, У КАГО ЁСЦЬ ПУШКІ.

ПАКУЛЬ МЯНЕ **НЯ БУДЗЕ**, САЧЫ ЗА КАПЯЛЮШЫКАМ, БЕЛА.

МАГЧЫМА ЯНА ВЕРНЕЦЦА СЁННЯ, КАЛІ ТУТ БУДЗЕ ДАСТАТКОВА ШМАТ КАЗАЧНЫХ, КАБ НАЛАДЗІЦЬ ДОБРАЕ **ШОЎ**.

ЦЯПЕР, КАЛІ ЯНА ПАСТАВІЛА СЯБЕ ЯК НЯЎЦЕШНУЮ АХВЯРУ ТАКІХ НЯГОДНІКАЎ, ЯК Я І ПАСТУШОК, ЯНА ПАЖАДАЕ СКАРЫСТАЦЬ ПЕРАВАГУ АСАБЛІВАЙ УВАГІ.

ТЫ ТАК **УПЭЎНЕНЫ**, ШТО ЯНА ШПІЁН?

ЯЕ ПРЫБЫЦЦЁ ЗДАЛОСЯ ТРОХІ... **ЦУДОЎНЫМ**.

ТАК, АЛЕ ТРЭБА ЎЛІЧВАЦЬ, ШТО САМО **ІСНАВАННЕ** ФЭЙБЛТАЎНА – ГЭТА ЦУД, ЯКІ ПРАЦЯГВАЕЦЦА І ПА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ.

КАНАДСКАЯ БРАМА БЫЛА **ЗАБЛАКІРАВАНА** ЎЖО КАЛЯ ДВУХ СТАГОДДЗЯЎ, І ЯНА БЫЛА ЗАЧЫНЕНА З **ІНШАГА** БОКУ... СІЛАМІ ВОРАГА, А НЯ НАШЫМІ.

ДЫК ХТО **АДЧЫНІЎ** ЯЕ ЗНОЎ?

І Я ЕДУ, КАБ ДАВЕДАЦЦА.

ТАМУ ТЫ ВЫМУШАНА БУДЗЕШ ЗАНЯЦЦА КАПЯЛЮШЫКАМ, ПАКУЛЬ Я БУДУ АДСУТНІЧАЦЬ.

ЯНА ПАЖАДАЕ ВЕДАЦЬ УСЁ ПРА НАША **СТАНОВІШЧА** – ХТО ТУТ, НАШЫ ПЛАНЫ, ЯКІЯ ДАТЫЧАЦЦА РОДНЫХ ЗЕМЛЯЎ, І НАШЫ ВАЕННЫЯ **РЭСУРСЫ**.

ТАКІМ ЧЫНАМ ЯНА НА ЎСЕ ПЫТАННІ АТРЫМАЕ РАДАСНЫЯ І АГУЛЬНЫЯ АДКАЗЫ. Я ДАСТАТКОВА ДОЎГА КІРУЮ ГЭТЫМ МЕСЦАМ, КАБ ЛІЦЬ ВАДУ.

І ШТО Б ТЫ НІ РАБІЛА, НЕ ДАЗВОЛЬ ЁЙ ПАДПІСАЦЬ ХАРТЫЮ ФЭЙБЛТАЎНА. МЫ НЯ МОЖАМ ЁЙ ДАЗВОЛІЦЬ ТРАПІЦЬ ПАД УСЕАГУЛЬНУЮ АМНІСТЫЮ.

БОЗЛІ, НАМ ТРЭБА ПАГУТАРЫЦЬ!

USINESS
OFFICE

ШЭРЫФ, Я ЖАДАЮ ЗАЯВІЦЬ ПРА НАПАДЗЕННЕ.

Далей:
ДЗЕ НАБЫЦЬ ПУШКІ Ў СВЕЦЕ МЯСНЫХ ЗВЫЧАЙНЫХ